# Гарадзенская КРЫНІЦА

Як жыць так жыць для Беларусі, а без яе навошта жыць.
БХД

№009, снежань 2012


### Вызначаны асноўныя прыарытэты БХД

### Алень Святога Губерта на ўскрайках Гародні



### Самавызначэнне жыццёвага шляху





Навагодне-калядныя святы. Менавіта актывісты Гарадзенскай філіі партыі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя віншуюць ўсіх, хто жыве з Богам ў душы, і шчыра чакае прыходу гэтых , так пажаданых Святочных дзён. У чаканні якіх, мы хрысціяне жывем з трапяткім сэрцам!

Так здарылася, што вера Хрысціянская падзялілася на аднаасобныя канфесіі Праваслаўную, Рыма- Каталіцкую , Грэка-Каталіцкую і яшчэ на шмат іншых дробных хрысціянскіх плыняў. Таму вернікі –хрысціяне сустракаюць Новы год і нараджэнне Выратавальніка ў розныя тэрміны.Час падзяляцца прайшоў. Надыйшоў  час яднання. Хто першы працягне руку прыязнасці, паразумення і шацунку?

# У калейдаскопе навін БХД

**Час няўрымслівы, і здаецца, толькі ўчора чальцы Гарадзенскай філіі партыі Беларуская Хрысціянская дэмакратыя ўздымалі свае рукі ў падтрымку рашэнняў ўстаноўчага з"езду БХД ў Менску. Прайшоў год і ўжо і на месцах прыспеў час здаваць справаздачу на ўзроўні рэгіёну.**

Традыцыйна гарадзенцы правялі сваё справаздачнае пасяджэнне ў офісе па вуліцы Будзёнага 48-А. З Цэнтра нас наведалі прадстаўнікі Цэнтральнай Рады БХД на чале з сустаршынёй партыі Віталем Рымашэўскім, адказным сакратаром партыі Дзянісам Садоўскім. Раёны даслалі сваіх прадстаўнікоў ад сваіх пярвічных арганізацый.

Рэяводзіў традыцыйна каардынатар партыі па Гарадзенскаму краю Мікола Баўсюк. Менавіта яму давялося трымаць рэй за праведзеныя мерапрыемствы падчас выбараў дэпутатаў ў беларускі парламент. Адказваць на пытанні па нямenш запатрабавальнай справе, як захаваць сям"ю з хрысціянскімі прынцыпамі маралі.

Згадаю адразу, гарадзенцы не былі адзінадушнымі нават ў такім пытанні, як байкот выбараў. Большасць актыву імкнулася да поўнага байкоту выбарчага працэсу, адмаўляючы які-кольвечы дыялог з уладнымі структурамі. Іншыя наадварот, выступалі за удзел у выбарах у якасці назіральнікаў. Прынамсі кожная з фракцый пазасталася пры сваіх думках. У прыватнасці, аўтар гэтых радкоў быў за поўны байкот выбараў матывуючы свае перакананні тым, што пры існуючай на тэрыторыі Бацькаўшчыны ўладнай клікі аб ніаякім парламентарызме мова ісці ня можа. Выбары праходзяць пад жорсткім дыктатам прэзідэнцкай вертыкалі. І "несвайму" ў "дэпутацкай палатцы" рабіць няма чаго. Таму байкот –гэта адзіны сродак даказаць праўладным, што з імі няма аб чым гаварыць. Неабходна моўчкі весці акцыі пратэсту з адной мэтай паскорыць час скону іх ўладнай манаполіі. І відавочна, што ідэя байкоту нямала насцярожыла тых, хто з самых высокіх беларускіх трыбун жадаў згадаць за каго народ. Прыйшлося гэтай самай вертыкалі з венчыку іх "першаўладара ліць бруд на тых, хто шляхам байкоту распачаў чарговы этап барацьбы супраць рэжыму здрады і хлусні. І гэтая барацьба будзе доўжыцца, будзе збіраць сваіх прыхільнікаў, спачуваючых. Працяг байкоту - гэта ня толькі выбары - гэта тлумачэнне беларусам тых шкод, якія нанёс рэжым "народнага прэзідэнта" адроджанай ня ім, і яго памагатымі Беларускай дзяржаўнасці, абрабаванага папярэднікамі рэжыму маральна і матэрыяльна народу Беларусі, гісторыі нашае Бацькаўшчыны. Байкот магчымасць тым, хто змагаецца за годнае існаванне Беларусі ў гроне Эўрапейскіх дзяржаў.



**Сям"я і хрысціянскія пачаткі**

Абыходзіць другое, такое этычнае пытанне, як захавання сям"і з хрысціянскай чысцінёй вельмі надзённа для чальцоў БХД. Праўладны яе рэжыму хоць і выдаткуе нейкія сродкі на фінансаванне праграмы дапамогі няпоўным сем"ям, сіроцкім дамам, але робіць гэта штучна. Як доказ вышэйзгаданаму, заўжды з аглядкай ня толькі на афіцыйны Менск, а і на Масковію" Маўляў вось так жа робіць і " Старэйшы брат". Палітыка аглядак - гэта доказ на слабасць рэжыму, ён ўсяляк гатоў прахіляцца перад Масковіяй толькі б на яе грошы працягнуць сваю ўладную стагнацыю. А не працаваць на моцную беларускую сям"ю, а значыць і на моцную Беларусь. Моцная, свядомая Беларусь ім нідачаго. Нашаму ж народу патрэбна сапраўдная беларуская ўлада патрыётаў, якія кінуты гэтым адыёзным рэжымам ў турмы. Таму няўміручая ідэя панавання на Беларусі беларускага, сямейнага, ўтульнага мае перспектыву адраджэння толькі ў еднасці ўсіх дэмакратычных сілаў у адзіным шыхце. І поўнага адмаўлення ўдзельнічаць ў якім-кольвечы прыдуманым гэтым рэжымам псеўда-маршы да дэмакратыі па Лукашэнку.

**Дзяржава і Малы памежны рух**

Значныя высілкі да праблемы ўзаконення на дзяржаўным узроўні беларуска-польскага пагаднення аб малым памежным руху здзейснілі актывісты гарадзенская філіі БХД.

Збор подпісаў - гэта толькі адзін накірунак дзейнасці. Выкарыстоўваючы плошчу рэгіянальнай газеты планамерна вялося тлумачэнне тых выгод, што прынёс бы мясцовым палякам, рускім, украінцам, іншым прадстаўнікам нацыянальных мяншынстваў, што стала пражываюць ў памежным рэгіёне і маюць беларускае грамадзянства ратыфікаванне беларускай стараной пакета дамоўленасцяў рэгіянальнага ўзроўню. Палякі ратыфікавалі дакумент і магчыма ўжо забылі пра яго існаванне. Афіцыйны Менск як не чуе запытаў грамадзкасці. І чакаць тут пазітыўных зрухаў мала верагодна. Адказныя беларускія асобы з Міністэрства Замежных спраў даўно згадалі, “Што ўсе беларускія грамадзяне маюць роўныя правы перамяшчэння. Ніякіх прывілееў групе насельніцтва ня будзе”. Менскія чынушы наадварот будзіруюць у думках грамадзян такую ідэю:” Міністэрства Замежных спраў робіць канкрэтныя захады, каб усе грамадзяне Беларусі праз год, два змаглі ездзіць у Эўропу без візы”. Мажліва гэта чарговая прафанацыя грамадзян і грамадзтва, бо як вядома некалі польскі бок і суседнія Прыбалтыйскія краіны прапанавалі беларусам выдаваць бясплатныя візы як з нашага боку , так і з боку краін-суседак. Украінцы пагадзіліся і маюць бясплатныя візы. Мы ж спаслаліся на тое , што “ браты рускія “ня будуць мець такіх міжнародных магчымасцяў. А мы з імі складаем Саюзную дзяржаву. Як жа так, каб “браты” пакуталі , а мы безсаромныя каталіся па Эўропе. Як вядома цацанкі-абяцанкі - дурню ў радасць.

**Гістарычная свядомасць**

Помніць сваіх гістарычных дзеячоў, спраўляць холды ў гонар іх светлай памяці! Ці не адна з самых высакародных ідэяў якая пануе ў душы свядомага беларуса. Так і гарадзенскія бэхэдоўцы спрачыніліся да ўшанавання памяці тых, хто складае гонар беларусаў. У Фарным касцёле актывам была ўшанавана памяць айцоў-заснавальнікаў Беларускай Хрысціянскай Злучнасці ксяндзоў Станкевіча і Гадлеўскага, на Радуніцу бэхэдоўцы адны з прадстаўнікоў мясцовых прагрэсіўных дэмакратычных рухаў здзейснілі вандроўку да памятных месцаў знакамітых дзеячоў беларускага адраджэння. І пакуль такія высакародныя справы жывуць у сэрцах тых нямногіх свядомых беларусаў ідэя, што Бацькаўшчына будзе жыць у дэмакратычным звязе Эўрапейскай супольнасці з Богам ў сэрцы дае надзею тым, хто яшчэ на няпростым шляху да Беларускасці і Бога.

*Паважаныя землякі! Тыя, хто падзяляе нашы каштоўнасці, і хто на шляху аднаўлення ў сэрцы партыі з Богам ў душы.*

*Сябры абласной Рады партыі “Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя ”віншуюць Вас з надыходзячым Ражством Хрыстовым і Новым 2013-тым годам .*

*Ўсім Вам шчасця, поспехаў і радасці за нашу Беларускую Бацькаўшчыну.*



# Сшытак Гарадзенскай інфармацыі

**Вяртанне Аленя Губерта**

Гарадзенскія дарожныя службы, што займаюцца ўсталяваннем знакаў дарожнай інфармацыі пахваляюцца: ”Маўляў, на ўсіх ўездах ў горад над Нёманам будуць усталяваны знакі з выявамі гарадзенскага герба, сімвалам якога з”яўляецца Святы Алень Губерта”. Вяртанне да гістарычнай памяці і справядлівасці можа і надасць аўтарытэту гарадзенскім уладным сярод апазіцыянераў. Але гэты захад ўладных неабходна падкарэкціраваць напамінам. У запасніках схаваны ветразнік аздоблены выявай Аленя Святога Губерта. Выкананы ён рукамі мастака-каваля Юрася Мацко. Менавіта неабходна і тут праявіць гістарычную памяць і замацаваць ветразнік на вежы Новага Каралеўскага замка наўзамен бальшавіцкай зоркі, што паганіць гонар гарадзенцаў і архітэктуру Гародні. Дзеля гэтай гістарычнай справядлівасці больш дваццаці гадоў таму і быў выкаваны ветразнік з выявай Святога Аленя Губерта. Ён ўсё яшчэ чакае гістарычнай справядлівасці!

**“ Тэкстыльшчыкі“ будуць рэканструяваны**

Пасля капраманту ў палацы з,явяцца два ліфты, балконы, зала рэгістрацыі шлюбаў.

Дасціпныя гарадзенцы пасмехваюцца: ”Маўляў навошта трохпавярховай будыніне два ліфты”. Насамрэч навошта? Як згадваюць старажылы гісторыі палацу “ Тэкстыльшчыкаў” сама будыніна пастаўлена ў цэнтры горада задам-наперод. Яе будавалі ў спешцы жадаючы схаваць з відавоку грамадзкасці ўзарваныя парэшткі друзаў любай гарадзенцамі Фары Вітаўта. Таму і зараз, сапраўдныя патрыёты горада за тое , каб “тэстыльшчыкі” перанесці з цэнтра Гародні ў іншае месца, і наноў адбудаваць Фару Вітаўта. Гэта было б сапраўды гістарычна справядліва.

**Мясцінамі Кастуся Каліноўскага**

Сёлета, як і штогод прадстаўнікі дэмакратычных сілаў Гарадзеншчыны наладзілі вандроўку да родных мясцін беларускага барацьбіта-патрыёта Кастуся Каліноўскага.

Ад Гародні да раённага цэнтра Свіслач кожны дабіраўся па свойму, хто на легкавіку, хто на аўтобусе. Ўсяго прайсціся памятнымі мясцінамі Каліноўскіх гэтымі восенскімі днямі сабралася каля пяцідзесяці чалавек. Ня ўсе ахвочыя здолелі прыехаць. Памяшалі справы. Але і тыя, хто наведаў Малую Радзіму Кастуся – гэта сапраўдны падмурак беларускай нацыянальнай будучыні. Гэтых самахвярнікаў ніхто не агітаваў, ніхто не патрабаваў паехаць пад прымусам, як гэта робіцца на кастрычніцкія і перашатравеньскія святы ўладнай вертыкальлю. Яны дабраахвотна і з любоўю дакрануліся да гістарычнай спадчыны адраджэння беларускага патрыятызму, і самаахвярнасці супраць іншаземнай інтэрвенцыі.

**“Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі”**
**(Ф. Багушэвіч)**

Для ўсіх жадаючых дасканальна валодаць роднай мовай з першага лістапада ў Гарадзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Ф. Карскага будуць праходзіць курсы з паглыбленным вывучэнням новых правілаў арфаграфіі і пунктуацыі.

У сувязі з уступленнем новых правілаў арфаграфіі і пунктуацыі супрацоўнікі адзела краязнаўства нашага музэя, вырашілі арганізаваць курсы беларускай мовы, кажа намеснік дырэктара Гарадзенскай навуковай бібліятэкі імя Я.Карскага, Марына Ігнатовіч.

Ды і ўвогуле, гэтыя курсы патрэбны нам каб разумець мову, каб размаўляць на ёй. Я лічу, што мы павінны зрабіць усё, каб яна нарэшце заняла сваё пачэснае месца якое заслугоўвае.

Мы закупілі літаратуру, падрыхтавалі залу ў якой будуць праходзіць заняткі, запрасілі выбітнага выкладчыка з універсітэту.

У нас ёсць вопыт правядзення курсаў па вывучэнню замежных моваў, а ў гэтым годзе зладзілі



яшчэ і курсы ангельскай мовы для дзяцей. А вось курсы беларускай мовы будзем ладзіць упершыню і па гэтай прычыне турбаваліся: ці будуць яны мець попыт, ці зможам мы назбіраць людзей, аднак, на шчасце, самі былі здзіўленны тым, з якой ахвотай людзі запісваюцца, тэлефануюць, цікавяцца . Па усім бачна, што людзі маюць у гэтым патрэбу.

Курсы платныя, але дакладны кошт яшчэ нявызначаны, заняткі будуць праходзіць два разы на тыдзень і працягнуцца тры месяцы.

Ласкава запрашаем

Тэлефон для даведак: 8 (0152) 74-39-11.

Ларыса Ішчанка

### Арт галерэя " Крыга " і гісторыя ў малюнках

Менавіта тут можна аглядзець выставу пад такім меладычным і ўлюбёным назовам "Горад Губерта". Экспазіцыю выставы склалі мастацкія работы мастакоў Сільвановіча, Філіповіча, Ізобава. Хоць творцы і працуюць ў розных тэхніках мастацтва, аднак любоў да гісторыі горада над Нёманам іх аб'яднала. І аўтар гэтых радкоў ўпэўнены, што ідэя такой выставы паспрыяе правільнаму фарміраванню светапогляду тых, хто мала ведае сапраўдны летапіс Гародні . Перабудуе іх паняверку ў пазітыў.

### Песні беларускія, размовы польскія

Ў Гародні прайшоў конкурс беларускамоўных спеўных калектываў з Беласточчыны.

Песенны фестываль адмысловая рэч беластоцкіх беларусаў.

Заўважана іншае. Ніхто з так-званых " беларусаў Польшчы" не гаварыў ні між сабою, ні на людзях на роднай беларускай мове. З вуснаў беластачан гучала мова польская.

### Знаходкі і час
### Са старажытных сховішчаў

Займаючыся навядзеннем парадку ва ўласнай сядзібе ксендз Юзаф Макарчык трапіў на вельмі шыкоўны скарб. У скляпеннях баракальнага гарадзенскага Францысканскага касцёла ён знайшоў цэлую бібліятэку. У рукі ксяндза трапілі розныя гатункі кніжнай вытворчасці. Былі сярод іх і старажытныя першадрукі, рукапісныя творы, навуковая і мастацкая літаратура. На канкрэтных фактах высвятлялася, што ня толькі разнастайнастайную, але і шматмоўную кніжную спадчыну заставілі сваім паплечнікам браты-францішканцы. Знойдзеныя творы былі напісаны на польскай, лацінскай і іншых заходнееўрапейскіх мовах.

Распалены зместам і гістарычнай каштоўнасцю знаходкі пан Юзаф паехаў да сваіх сяброў ў гарадзенскі музей гісторыі рэлігіі, дзе ён на працягу некалькіх год дапамагае сваім паплечнікам па захаванні сакральнай гісторыі. У свой час ксендз Юзаф передаў сюды пашкоджаны партрэт манаха-картузіянца 17 ст. Джона Хьютана. Пасля крапатлівай рэстаўрацыі партрэт стаў візітнай карткай музея на першым музейным форуме, што праходзіў у Гародні з 12 па 14 кастрычніка. За адрастаўрыраваную працу музей гісторыі рэлігіі атрымаў дыплом у намінацыі "Лепшая праца рэстаўратара" і 15-ць мільёнаў беларускіх рублёў.

За час супрацоўніцтва ксендз Юзаф передаў музею пэўную частку літаратурнага багацця былога Францішканскага кляштара. У фонды музея трапіла каля тысячы выданняў рознага памеру. Сярод іх адмысловыя богаслужбовыя тэксты, дзіцячая катэхізічная літаратура. Вось і на гэты раз музейшчыкі знайшлі копію навуковай дысертацыі мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча. Аднак на доўгі час запомніцца вынаходніцтва ў сто-се кніг латышска-эстонскага перакладчыка. Такі годны фаліянт не знойдзеш ў самых вядомых бакуністычных крамах хрысціянскай Эўропы. Перададзеная ксёндзам Юзафам літаратура папоўніць фондавы і бібліятэчны аддзелы музея гісторыі рэлігіі.




### І яшчэ да спраў кнігавыданняў

Дзеямі саматужніка ксяндза папаўненне фондаў музея гісторыі рэлігіі ня скончылася. Напрыканцы кастрычніка ў аддзеле мастацтва бібліятэкі імя Карскага адчынілася новая выстава. Яе назва "Духоўная спадчына стагоддзяў. Рарытэты з былой бібліятэкі ордэна айцоў францішканцаў у Гародні". Галоўны бібліятэкар аддзелу мастацтва Людміла Ўдавенка зазначае: "У год кнігі кіраўніцтвам бібліятэкі было прынята рашэнне правядзення і арганізацыі кніжных выстаў. Мы экспануем прадметы з уласнага сховішча, а таксама запрашаем і прыватных калекцыяне-



раў. Ксендз Юзаф сам выступіў з прапановай арганізаваць выставу шэдэўраў бібліятэкі айцоў францішканцаў". На выставе прадстаўлена больш 150-ці фаліянатаў. На вітрынах выставы кожны можа ўбачыць падручнікі па матэматыцы, прыродазнаўству, рэлігійную і мастацкую літаратуру. Самай старажытнай сярод выстаўленых кніг з'яўляецца інструкцыя для святароў 1643 года выдання. Знайшлося месца ў бібліятэцы ордэна францішканцаў і пісьмовай спадчыне ордэна манахаў-базыльян. Грэка-каталіцкі ордэн быў прадстаўлены аналагічнага тыпу выданнямі. Найбольш вядомае дасціпнаму знаўцу сакральнай творчасці "Люстэрка царкоўнага чалавека" з Супраслі, сярэдзіны 18-га ст. Загалоўны аркуш мае подпіс Яна Клімента Браніцкага, заснавальніка Беластока. У знак ўдзячнасці за атрыманую плошчу для прэзентацыі духоўнай спадчыны айцоў францішканцаў ксендз Юзаф падараваў бібліятэцы чатыры тамы гісторыі францішканскага ордэна. Гісторыя выдання якіх сягае перыяду рымскага друкавання кніг 1765 г. Дарунак ксяндза стане адным з цікаўных у калекцыі рэдкіх выданняў бібліятэкі.

**Хто клапаціўся аб дабрабыце габрэйскай сям'і**

Свае навуковыя пошукі у накірунку гісторыі "богавыбранага народу" гарадзенскі гісторык Вольга Сабалеўская скончыла выданнем кнігі "Штодзённасць габрэяў Беларусі ў канцы XVIII першай палове XIX ст". Спадарыня Вольга ўжо больш за пятнаццаць гадоў працуе над гэтаю тэмай. Чаму менавіта габрэі? На гэтае пытанне Вольга Аляксандраўна адказвае наступнае:" Калі я стала займацца тэмай то, зразумела, што пабудаваць сваю ўласную беларускую дзяржаву трэба шмат чаму навучыцца ў габрэйскага народа. Ведаеце глядзешь на габрэя, як на таго чужынца, то з цягам часу разумееш, што праз яго зразумееш і сябе, і толькі тады прыходзіш да высновы, што у нас шмат агульнага".

Сама ж кніга пабудавана так. Першая частка растлумачвае чытачу сутнасць штодзённасці як мэтаду даследвання ў гістарычнай навуцы. У другой размова непасрэдна скіравана ў кірунку гаспадарчых, культурных і іншых праблем з якімі сутыкнуліся беларускія габрэі, апынуўшыся ў новых палітычных і жыццёвых умовах (у складзе Расійскай імперыі). У выданні можна пазнаёміцца з субкультурай габрэйскага народа, яго гендэрнымі асаблівасцямі. Што датычыцца апошняга, тут важка адзначыць такі момант. Мужчыны-габрэі больш часу аддавалі адукацыйнай справе, вывучалі Талмуд, Тору. На жаночыя плечы падалі ўсе гаспадарчыя праблемы. Па-гэтаму беларускае габрэйства было болей адукаваным, у адрозненні ад сваіх украінскіх родзічаў. Прэзентацыя кнігі Вольгі Сабалеўскай прайшла ў гарадзенскім " Музеі на Трэцкай".Які ад нядаўна месціцца ў будынку былой сінагогі. Габрэйская суполка горада запланавала стварыць з часам і музей сваёй культуры. Як распавёў дырэктар музея Беніямін Ерузалім:" Зараз поўнасцю падрыхтаваны тры залы. Яны прысвечаны быту, традыцыям габрэяў. Асобным момантам адлюстравана гісторыя гарадзенскага гета, боль які застаўся ў сэрцы кожнага жыхара –габрэя горада". Цалкам музей будзе працаваць, калі скончацца работы па будаўніцтву апошняй (чацьвёртай) залі. Адкрыццё якой плануецца здзейсніць у канцы года.

**Сінагога ў рыштаваннях!**

Нарэшце распачаліся і актыўна вядуцца рэстаўрацыйныя работы на тэрыторыі гарадзенскай сінагогі. Мясцовыя свядомыя габрэі рады падзеі, яны гэтага чакалі не адно дзесяцігоддзе. Чакалі, змагаліся за тое, каб не бурыліся іх святыні і святыя месцы. Гэтымі восенскімі днямі аздабляецца фасад будынка сінагогі. На чарзе аднаўленне школы "Хэдэр". Ёсць і прыемныя паведамленні змагарам за культуру і гісторыю габрэйскай дыяспары Гародні. Іх змагарскія пачынанні павінна задаволіць інфармацыя аб тым, што будаўніцтву новай аўтадарогі ўздоўж рэчкі Гараднічанка згадана Не.

Яшчэ гарадзенскія габрэі рыхтуюцца сустрэць сваё найгалоўнейшае свята восені "Габрэйскія кучкі". Менавіта як сцвярджаюць дасведчаныя, пасля габрэйскіх кучак чакай надыходу халадоў.

**Быць больш пачутымі**

Назломе лета ў Гародні прайшоў першы семінар каталіцкіх сродкаў масавай інфармацыі. У семінары прынялі ўдзел прадстаўнікі як мясцовых так і рэспубліканскіх СМІ, журналісты з Бліжняга Замежжа. Запрошаным госцем быў вядомы польскі кінарэжысёр Кшыштаф Зануссі. Арганізатарамі першага семінара каталіцкіх сродкаў масавай інфармацыі выступілі Гарад-

зенская дыяцэзія. Праходзіў кангрэс у сценах Гарадзенскай Каталіцкай Вышэйшай Духоўнай Семінарыі. За тры дні семінара былі прачытаны даклады па пытаннях дзейнасці і пашырэння ўплыву каталіцкіх СМІ ў рэспубліцы. Спадар Кшыштаф Зануссі паказаў майстар-класс працы ў сродках масавай інфармацыі. Па выніках кангрэсу Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч зазначыў дзею ў Гародні як пазітыўны крок , і ён жа вызначальны вектар месцазнаходжання рыма-каталіцкай прэсы ў краіне. Арцыбіскуп пажадаў далейшага пашырэння ўплыву каталіцкіх СМІ. І ў першую чаргу на старонках дзяржаўнай прэсы.

**Сацыяльныя рэфлексіі Пракурорскія прапановы**

Гарадзенскія пракуроры маюць намер больш актыўна і дзейсна змагацца з той часткай грамадзян, якая на думку пракурорскіх займаецца гандлем кантрабандай.

Нядаўна пракурорская служба Гародні здзівіла гарадзенцаў адметнай прапановай адсялення ўсіх кантрабандыстаў ў глыбкі тэрытарыяльнай Беларусі далей ад дзяржаўнай мяжы.

Калі прапанова атрымае паразуменне на самым верху, то вельмі верагодна, што цэнтральная і ўсходняя частка тэрыторыі Бацькаўшчыны папоўніцца “навасёламі”.

**Дэмаграфічная сітуацыя ненайлепшая**

Згодна паведамленняў дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі насельніцтва Прынёманскага краю ня толькі старэе, але і змяншаецца колькасна.

Згодна інфармацыі дзяржсмі на Гарадзеншчыне зараз пражывае крыху больш за мільён пяцьдзесят тысячаў грамадзян. У савецкія часы гэтая лічба перавышала мільён сто тысячаў чалавек.

Чаму колькасць насельніцтва памяншаецца? Гэтага факта “дзяржаўныя журналісты” некаментуюць. Затое часта ў сваіх рэпартажах згадваюць пра шматдзетныя сем’і, пічкаюць нас лічбамі, што на Гарадзеншчыне больш нараджаецца чым памірае. Адзіная спасылка-гэта ад’езд нашых суайчыннікаў на замежныя заробкі. Рацыя тут маецца, але ня толькі ў ёй хаваецца праблема. Сама ж праблема навідавоку, маладыя сем’і ня маюць жадання нараджаць больш аднаго дзіцяці. У размовах з маладымі мамамі даведваешся, што мець вялікую сям’ю вялікая раскоша ў час, калі ў зацягнуўшымся эканамічным крызісе няма ўпэўненасці ў заўтрашняй перспектыве. Няма-ла маладых матуль выказваюцца і больш катэгарычна, яны вельмі баяцца частымі дэкрэтнымі адпачынкамі злаваць адміністрацыю па месцы працы. Пасля дэкрэту можна трапіць ў лік тых, з кім ня будзе падпісаны ганебны працоўны кантракт.




**На што аўрал?**

Гарадзенскія чыноўнікі ненажарт напалохаліся першага снегу.

На барацьбу з гэтай з’явай прыроды меркавалася прыцягнуць трактары сельгаспрадпрыемстваў, вяліся перамовы аб дапамозе і з кіраўніцтвам мясцовага Ўпраўлення МНС . Аднак, паспешнасць апынулася ўсяго паспешнасцю. Першы снег сам знік ад павышэння дзённай тэмпературы за некалькі сутак.

**Разводаў становіцца болей**

Адпаведна дадзеным ўпраўлення статыстыкі па Гарадзенскай вобласці ў параўнанні з мінулым годам разводаў на Гарадзеншчыне налічваецца на дзевяць працэнтаў болей. Сёлета на тысячу зарэгістраваных шлюбаў за першы год сямейнага жыцця бяруць развод 437 маладажонаў.

Таксама хвалюе статыстаў і нежаданне маладых ствараць сем’і. Сёлета ў шлюб ўступіла маладых жыхароў Прынямоння на восем з паловай працэнтаў меней чым летась.

Самы папулярны спосаб бачыць пабач каханага ці каханую ў асяроддзі маладых на Гарадзеншчыне – гэта знаходжанне ў такзваным грамадзянскім шлюбе.

**Па лесамасіву Пышкі будзем гойсаць на веласіпедах**

Веладарожак працягам прыкладна 30-ць кіламетраў пабудуюць ў гарадзенскім лесамасіве Пышкі згодна транспамежнага супрацоўніцтва.

Фінансаваць праэкт нібыта ўзяў-

ся Эўразвяз. Па словах мясцовых чыноўнікаў Эўразвязам выдаткаваны грант памерам больш паўтара мільёны эўра. Ўздоўж адмыслова залітага асфальтнага палатна велатрасы будуць размешчаны разнастайныя архітэктурныя вынаходкі. Ў вячэрні час па трасе дапаможа праімчацца з вецярком велааматару спецыяльнае асвячэнне.

**Драўляныя ідалы фестывальнага братэрства**

Паркі, лесапаркі і скверы Гародні хутка будуць пярэсціць драўлянымі скульптурамі выкананымі мастакамі-дрэвасекамі пленэра, які меў месца на апошнім фестывалі нацыянальных культур ў горадзе над Нёманам. Вось будзе дзіва гарадзенцам і гасцям горада назіраць за вырабамі з драўніны ў стылю галоўнай ідэі фестывалю роўнасці ўсіх дыяспараў, што пражываюць на нашай тэрыторыі . Так, што чакайце паважаныя гарадзенцы эміграцкай экзотыкі, якая зараз спецыяльна захоўваецца на складах ЖКГ горада.

**Дом афіцэраў, мінуўшчына і сучаснасць**

Ведалі б дойліды пазамінулага стагоддзя , што спраэктаваны і пабудаваны імі не дзеля толькі прыбытковай справы адмыслова палац ў Слоніме ў нашы дні стане нікому непатрэбным.

Некалі, цяпер ўжо гісторыка-культурны архітэктурны ансамбль служыў забавам вайскоўцаў і з гонарам насіў назоў “ Дом афіцэраў”. Згодна рэформы беларускага войска ён стаў непатрэбны вайскоцам і трапіў ў распараджэнне слонімскага ЖКГ. Цяпер “ прыгажун –дом ” ў трэці раз выстаўляецца як лот на аўкцыён.

Ці знойдзецца ахвочы выкупіць гэтую закансерваваную гісторыка-культурную спадчыну ў горадзе , дзе яшчэ вітае памяць знакамітага Міхала Клеафаста Агінскага.

**Інвестары аддаюць перавагу вытворчай эліце**

Менавіта на рэканструкцыю вытворчых плошчаў лідскага завода “опцік” намераны выдаткаваць сродкі ў адміністрацыі польскага прыватнага прадпрыемства “Ліцехбел”. Палякі спецыялізіруюцца на вытворчасці маляванага і гнутага шкла. Таму яны і аддалі перавагу ў рэалізацыі свайго інвестыцыйнага праэкту роднаснаму прадпрыемсту, размешчанаму на іх думку на польскіх “ крэсах ўсходніх”. Пасля рэалізацыі інвестыцыйнага праэкту наш беларускі пакупнік зможа набыць ў краме бра, свяцільнік выраблены пры дапамозе польскага капіталу.

**Лідчукі і падпольны забаронены бізнес**

Байцамі спецпадраздзялення “Алмаз” затрыманы лідзянін пры спробе збыту ў сталіцы партыі амфітаміна. Пасля праведзеных спецмерапрыемстваў з наркагандляром ў Лідзе была выяўлена лабараторыя, дзе пры вобыску былі знойдзены кіслоты, парашкі, растваральнікі і іншыя “ інгрыдзіенты” для вырабу наркотыкаў. Ўсяго спецназаўцы канфіскавалі тут каля 20-ці кілаграмаў “сыравіны” з якой мясцовыя алхімікі выраблялі “ наркадур”.

**Калі нэрвы “шаляць”**

Азарт ад картачнай гульні, ці рулеткі апісаны ў мастацкіх тамах класікаў. Менавіта такім азартным гульцом быў і 28-гадовы лідзянін.

На жаль, ў чарговай ігорнай “Адысеі” лідчук прайграўся. А затым яго пад белыя ручкі вывелі з клуба. На такую “гасціннасць” заядлы гуляка пакрыўдзіўся. Ён сышоў дадому захапіў каністру бензіну і меў намер абліць сцены клуба палівам і падпаліць. У апошні момант здзейсніць задуманае аматару “ чырвонага пеўня” перашкодзіла міліцыя.

**Марозы не траскучыя, а пальцы адмярзаюць!!!**

Менавіта такі нечаканы паварот лёсу здарыўся з жыхаром мікраараёна

“Дзевятоўка” ў Гародні.

Немалады гарадзенец адмарозіў пальцы нагі ў першыя ж непрацягглыя марозныя дні. Абмаражэнне на думку незалежных экспертаў здарылася, дзякуючы бюракратычным загагулінам беларускага жыллёва-камунальнага заканадаўства. Як тлумачыць старшыня таварыства ўласнікаў Аляксей С яму нехепіла часу каб аформіць ўсе неабходныя паперы да пачатку ацяпляльнага сезону. Дом новы і “ ўзаконіць” яго перад камунальшчыкамі-гэта сапраўднае, доўгатэрміновае хаджэнне па муках.

**Выбух на беларуска-польскім памежжы**

Нелегалаў затрымалі ажно на тэрыторыі Польшчы. Згодна інфармацыі ад кампітэнтных крыніц. Выбух здзейснілі з мэтай перасячэння дзяржаўнай мяжы на ўчастку Гарадзенскай памежнай групы выхадцы з краін азіяцкага поўдня. Нелегалаў было сем. Яны трапілі да нас праз празрыстую мяжу з Расеяй. Беларускія сілы дзяржбяспекі на ўсялякі выпадак задзейнічалі план па аператыўнаму рэагаванню на тэрарыстычныя і экстрымальныя пагрозы.

**ДАІ дае шанц**

Дабрачыннасць вырашылі праявіць і гарадзенскія даішнікі. Кожны тыдзень на вуліцах горада з”яўляецца спецаўто ДАІ пад №”555”. Экіпаж патрульнай машыны выбірае на свой густ грамадзян абазначаных флікерамі, і прапануе ўладальнікам гэтых вячэрне-начных светлячкоў адказаць на шэраг пытанняў.

Пытанні самыя звычайныя, дзе знаходзіцца той ці іншы завод, фабрыка, фірма, па якіх вуліцах ездзяць аўтобусы ці тралейбусы канкрэтных маршрутаў. Калі флікершчык спраўляецца з пытаннямі атрымлівае бонус, бясплатнае навучанне кіраваннем аўтамабіля (катэгорыі “В”).

## Нам пішуць, раяць, пытаюцца

### *Новыя патрыёты*

Жыхарка Свіслацкага раёна Вольга .А пытаецца ў рэдкалегіі:" надоечы слухала выступленне прэзідэнта краіны, які назваў камуністых патрыётамі, а тых сапраўдных беларусаў, што размаўляюць па беларуску пятай калонай? Кіраўнік дзяржавы нават абяцаў матэрыяльную дапамогу новым патрыятычным сілам Беларусі. Чаму так адбываецца? За што адных называюць патрыётамі. А тых , хто змагаецца за сапраўдную Беларусь , шануе культуру, мову,гістарычныя традыцыі Бацькаўшчыны ў такой непавазе на самым вярху? Патлумачце".

Рэдакцыя: шаноўная наша чытачка. На тэрыторыі нашае Бацькаўшчыны зараз перыяд кіравання манкуртаў. Ім нідачаго дзяржава з гістарычнай спадчынай. Яны спадкаемцы тых палітычных сілаў, хто дагэтуль трымяціць пачуўшы так мілае іх сэрцу песеннае" Мы наш, мы новы свет збудуем, хто быў нічым, той стане ўсім". Гэта пастулат таксваных кухарчыных дзяцей. А на зямлі Беларусі яны ў пашане, ім гонар, павага за непавагу да гісторыі, і традыцый таго народу сярод якога жывуць гэтыя хлусы.

### *Турысты ня будуць ў захапленні*

Прачытаў ў газеце " Вячэрні горад" артыкул пад назовам " Прыманка для інтурыста". Аўтар дасведчаны, што казаць. Але я вось на чым хачу засяродзіць ўвагу. На Гарадзеншчыне ёсць вопыт заснавання алей памяці некаторым дзеячам камуністычна-бальшавіцкай эпохі. Я маю на ўвазе райцэнтр Свіслач. Прыедзьце , паназірайце і паслухайце, што згадваюць замежныя турысты ўбачыўшы побач скульптураў паплечнікаў Кастуся Каліноўскага гэтых ідалаў.

### *Віктар! Прайграў Ты*



Чарговае паражэнне гульцоў барысаўскага "БАТЭ" асабліва незасмуціла. Наш беларускі футбол атрымаў па заслугах. Усе радуюцца выхаду клуба з Барысава ў плэйоф менш папулярнага ў футбольнай Эўропе турніра Кубак Эўропы. Сам Віктар Ганчарэнка даючы інтэрв"ю дзяржаўным СМІ не знайшоў прафесійных аргументаў даць тлумачэнне паразам. А яны на відавоку. Камандзе нехапіла стратэгічнага запасу дагуляць правільна турнір Лігі чэмпіёнаў. Барысаўчане ад гульні да гульні паказвалі аднатыповы футбол. Не вельмі ўпрыговаючы малюнак гульні новаўвядзеннямі тэхнікатактычнага плану. Футбольныя стратэгі 2Валенсіі", а затым і павергнутага некалькі месяцаў таму французкага "Лділя" дасканала вывучылі гульцоў, гульнёвы стыль каманды. І як кажуць прафесіяналы перакрылі кісларод гульцам " Баты" на ўсіх іх казырных накірунках. Бяды неадчулі як футбалісты, так і трэнеры. Вынік нестратэгічнага падыходу да справы зафіксаваны ў выніковых пратаколаг трох апошніх матчаў, дзе "Батэ" быў толькі назіральнікам за хітраперапляценнямі гульнявой стратэгіі каманд Францыі і Гішпаніі.

Прайграў ня плач, але помні, што гульнявая стратэгія, тактыка павінны мяняцца ад сітуацыі на пляцоўцы любога гульнявога моманту. Набірайцеся гэтага патрэбнага багажу і гульцы, і трэнеры.

**Беларусу з Жодзіна ва Украіне ладзяць апладысменты стоячы**

**Яўген Літвінковіч, просты хлапец, з беларускага горада Жодзіна, ў сябе на радзіме не аднойчы браў удзел у розных музычных конкурсах, але на вялікі жаль, беларускія прадзюсэры не разгледзілі, а можа не захацелі разглядзець талент. Напэўна ён так і застаўся б невядомым і непрызнаным, калі б не паспрабаваў сябе ва ўкраінскім шоў для спевакоў "Х - фактар".**

Ігар Кандрацюк, гэта адзін з суддзяў шоў, у адным з сваіх інтэрв'ю ўкраінскаму тэлеканалу "Ты вдома" кажа, што за два папярэдніх праэкты выступ Яўгена адзін з самых яскравых, дзіву даешся моцы голасу, ад яго спеву па ўсім целе бегаюць мурашкі, на вочы наплываюць слёзы. Не зразумела, чаму такому таленавітаму парубку няма месца на яго роднай беларускай сцэне?

Па ўмовах конкурсу "Х – фактар", для таго каб прайсці ў 12-ць найлепшых спевакоў, а потым пазмагацца і за першае месца, неабходна прайсці некалькі этапаў. Па першае, трэба каб цябе заўважылі на адборачным туры сярод некалькіх тысяч канкурсантаў, адбор гэтых тысячаў праходзіць у буйных гарадах Украіны. Пераможца конкур-



су атрымлівае два мільёры грыўнаў. Таму зразумела, што сярод таленавітых шмат і тых, хто проста прыходзіць "засвяціцца" на тэлеэкране.

На адборачным туры Яўген выконваў маламавядомую песню з конкурсу "Еўрабачанне - 2010" ізраільскай выканаўцы. Тэкст папярэдне быў перакладзены на расейскую мову. Пры выкананні апошняга куплета гледачы і суддзі ў адзіным парыве ўсталі са сваіх месцаў і апладыравалі стоячы.

Канешне, конкурс яшчэ не скончыўся і яго пераможца нам пакуль яшчэ невядомы, ды і ў залётнага беларуса шмат таленавітых канкурэнтаў, але тое, што хлапец з Жодзіна здабыў любоў гледачоў усёй Украіны, што ім зацікавіліся, за яго перажываюць- гэта ўжо аб нечым сведчыць.

Вось як атрымоўваецца: беларусу на Украіне адкрываецца дарога на вялікую сцэну. А пасля такога прызнання, ці захоча яму вярнуцца на Радзіму.

Зычым яму перамогі,і выдатнай будучыні песняра!

Ларыса Ішчанка

## *Мадэль і ў Афрыцы мадэль*

Першыя дзяржаўныя вусны, адзіныя вусны. Іх згадкі вырашаюць, накіроўваюць, вызначаюць, радзяць і судзяць.Менавіта беларускую мадэль ўсебаковага эканамічнага развіцця агучылі колькі год таму і нашы беларускія першыя вусны.Мадэль як мадэль, з невялікімі спасылкамі на дзяржаўныя канцэпцыі развіцця краін Скандынаўскай паўвыспы. І, як, нечакаць –гэта перспектыўны шлях хуткага дабрабыту ўсіх паасобку і разам! Вось крыху і прыдзе час ўсеагульнага дабрабыту на зямлю Бацькаўшчыны. Хай зайдросцяць ўсялякіх колераў дэмакраты Эўропы, Азіі і самой Амэрыкі. Час ідзе,а мы ўсё там жа на задворках дабрабыту, праўды і павагі. І гэта вельмі адпавядае нашаму шляху развіцця і інтэграцыі ў Сусветны эканамічны працэс.

Але вышэйзгаданае-гэта вонкавае ўяўленне.Калі ўважліва вывучаеш прыарытэты мадэлі , то адчуваеш, што ад яе патыхае саветамі -догмамі калгасна-саўгаснай сістэмы. Развіццё прыватных падвор"яў і фермерства адпушчана на самавыжыванне (хоць і гэта тут прапісана), прамысловасці свабоду, але пад кантролем дзяржаўных структур. Паўсюдна прысутнічае усебачнае дзяржаўнае вока , і калі гэта трэба вярхам, то, яно, маецца на ўвазе " вока" падкажа, запытае, дапаможа.Кантроль дзяржавы патрэбны, але ён тады прыдатны, калі ў ім ёсць неабходнасць. Вызначаць абсалютна правільны вектар эканамічнага поля дзеяння для суб"ектаў гаспадара сідзячы ў высокіх кабінетах –гэта справа абсурдная і няўдзячная. На месцах лепей бачаць, дзе купіць больш танную сыравіну, куды больш выгадна прадаць прадукцыю, а калі ўсё прадпісваецца зверху, то пра якую самастойнасць заводаў і фабрык можа ісці размова. А яна патрэбная як паветра. Здольныя, ініцыятыўныя грамадзяне чакаюць таго заканадаўчага моманту, калі яны нехаваючы ад падаткавай інспекцыі свае прыбыткі змогуць будаваць новыя вытворчыя магутнасці. Калі ўжо нарэшце той час прыйдзе? А так, адметнасць беларускае эканамічнае мадэлі, што ёй ўсё падкантрольна.І ад такога нікуды не дзенешся.Тваю ўнутраную эканамічную палітыку пракантралююць, а знешнеэканамічную і ўвогуле прафільтруюць, каб не было крамолы.Кантраляваць ёсць каму.Толькі таму, дзякуючы адміністратыўнай груваскасці, якая і стае тормазам – магільнікам для мясцовай ініцыятывы .І выхаду тут пакуль няма, бо так пабудавана вертыкаль беларускага дзяржаўнага кіравання. І змен якіх кольвечы на нашай зямлі непрадбачыць нават астролаг Павал Глоба.А гульні ў выбары, інавацыі, сіліконавую даліну, яшчэ ў невашта, што мала зразумела сярэднестатыстычнаму пенсіянеру-вяскоўцу ўсяго каляровыя ілюзіі-пажаданні для даверлівых і недасведчаных. І якую тут прывабную афарбоўку гэтай адміністратыўна- бюракратычнай мадэлі не рысуй , існасць яе відаць здалёк ад галавы да пят.

# Справы канфесійныя

Восенска-Піліпаўская пара ўражвае ня толькі сваімі валёрамі, колерамі, але і тымі хрысціянскімі падзеямі, якімі так славіцца наша Гарадзеншчына. Насамрэч, за справаздачны перыяд ад выхаду ў свет нашага сёмага нумара " Гарадзенскай Крыніцы" ў жыцці канфесійным Прынямоння шмат што змянілася. ! было вельмі цікаўным. Напярод неабходна ўзгадаць дваццацігадовы юбілей Гарадзенскага жаночага кляштара. Аўтар гэтых радкоў добра памятае першыя дні, нават гадзіны адраджэння і станаўлення ў Гародні стятой манасцкай абіцелі. Верныя ўсебакова падтрымлівалі жыхарак кляштара, Ігумeню Гаўрыілу, шмат ахвяравалі дзеля росквіту манасцкай справы. Адным словам барацьба за саму ідэю быць,ці ня быць ў Гародні жаночаму кляштару была няпростай. Ў постсавецкі перыяд, калі ў думках многіх яшчэ свідравалі разуменні аб Ленінска-Марксісцкім вучэнні знаходзіліся ахвотнікі, што ганьбілі саму ідэю адраджэння. Згадаем адразу , што спосабы ,якімі вялося шальмаванне заснавання кляштара ў горадзе выкарыстоўваліся супраціўнікамі самыя нечаканыя і часам абсурдныя. І нярэдка сярод верных чуліся словы, што кляштар ў Гародні няўздымецца. Аднак з дапамогай Ўсявышняга і дзякуючы малітвам верных сёння Гарадзенскі Ражства Багародзіцы жаночы



кляштар дзейнічае і квітнее. І толькі дасціпны гарадзенец заўважае, што за вонкавым лоскам адсвечваюць праблемы і праблемкі манасцкага жыцця. Калі ж глядзець ўважліва, то заўважаеш, што ў асяроддзі Гарадзенскага Праваслаўя існуе шмат непаразуменняў і барацьбы.Яскрава гэта паказалі ўрачыстасці прысвечаныя сёлетняму юбілею кляштара.Напярэдадні гарадзенцаў абляцела вестка, што ў Сергіеўскай царкве кляштара выстаўлены абраз Багародзіцы з далёкай выспы Афон, што тэрытарыяльна і адміністратыўна ўваходзіць ў склад старажытнай Грэцыі. Шмат верных і. дарэчы, самых розных канфесій жадалі пакланіцца святому абразу з выявай Заступніцы зямлі беларускай Прэснадзевы Марыі. Ня ўсім жадаючым справіць гэты высакародны чын пашчасціла. Адным не дала магчымасці праца, камусці нездаровілася. На жаль, здарыласы так, што тыя, хто прыйшоў незмаглі здзейсніць свой абавязак верніка і хрысціяніна. Памяшалі ўрачыстасці , што праводзіліся з нагоды юбілея і яшчэ штосьці на што звычайны вернік незвярнуў увагу. Сярод запрошаных пачэсных гасцей шмат хто проста праігнараваў юбілей . Верныя чакалі ўбачыць тут самае высокае абласное начальства,гэрархаў праваслаўнай царквы Беларусі. А яны сваёй прысутнасцю неўшанавалі гэтае свята веры ў Госпада Бога, яго сына Хрыста і яго Першародную Маці Дзеву Марыю.Шкада, бо за ўсімі гэтымі непрыездамі і нежаданнямі відавочны крызіс, як сярод гэрархаў Беларускай Праваслаўнай царквы, так і ў адносінах да Праваслаўнай веры мясцовых ўладных. Крызіс пакуль што тлее, ён ў зародкавым становішчы, але пройдзе час і ўсё праявіцца з вялікімі шкадаваннямі для простых вернючых і грамадзян шукаючых шлях да вучэння Боскага праз Праваслаўную царкву . Тое, што крызіс мае месца сведчаць сёлелетнія суды святароў ў Гародні , непрысутнасць ў якасці запрошаных на самых буйных мерапрыемствах звязаных з Праваслаўнай царквой высокіх чыноў абласной ўлады. Вярэдзіць душу і той факт, што падчас знаходжання ў гарадзенскім СвятаПакроўскім саборы абраза Маці Боскай Чэнстахоўскай . Падарожжа якога пад назовам " Ад акіяну да акіяну" арганізавала Руская Праваслаўная царква ,і прысвячалася ідэя падарожжа гэтага абраза праблемам захавання сям"і, праблемам ненароджаных дзяцей з-за абортаў аніхто з маіх калегаў журналістаў, што абслугоўваюць дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі нез"явіўся на саму ўрачыстасць для асвятлення мэтаў і задач вандроўкі верных ажно ад берагоў Ціхага акіну да берагоў Атлантыкі. Так што святы праваслаўных ў Гародні праходзяць пад знакам горычы і непаразумення.

# Алімпійскі год і беларускае спартыўнае золата

Год мінае, а ў асяроддзі беларускага спартыўнага бамонда незаціхаюць спрэчкі аб беларускай спартыўнай паразы на Сусветным ўзроўні.

На самой справе, як жа ацаніць вынікі выступлення беларускіх спартоўцаў на самых трэстыжных спаборніцтвах? Возьмем толькі самыя галоўныя старты- гэта Лонданская Алімпіяда. Чэмпіянаты Сусвету і Першынство кантыненту.

Запатрабаваныя на самым высокім ўзроўні 25-ць алімпійскіх ўзнагарод пазасталіся толькі нязбытнай марай. На чэмпіянатах сусвету па іншых спартыўных дысціплінах беларускія зборныя былі проста мякка кажучы ўдзельнікамі. І ўжо кольшнія спасылкі на алімпійскую хартыю за ўдзел ў спаборніцтвах сёння разглядаюцца як жарт недасведчанага. Можа таму тыя функцыянеры, хто адказваў за падрыхтоўку зборных каманд, асобных спартоўцаў сёння і прыкрываюцца тым, што гэта наш ўзровень. Але чаму так высокія амбіцыі галоўнага жыхара рызідэнцыі " Дразды"? Чаму зараз мяняюцца трэнеры, адказныя спартыўныя чыноўнікі? Адказ ляжыць на паверхні. Мы жывем, існуем пад ўсціскам камандна-адміністратыўнай сістэмы аналагу якой няма ні ў сучаснай , ні ў старажытнай гісторыі. Так і спартоўцы. Захацелася там наверсе камусьці 25-ць медалёў і падавай іх на талерачцы з блакітнай каёмкай. А не, то і галава з плеч. Ш беларускім варыянце. Страта працоўнага месца, яшчэ прасцей, адхіленне ад тлустай дзяржаўнай кармушкі. Праўда знаходзяцца смелыя і аўтарытэтныя трэнеры, якія згадваюць, што праблема ні ў чыноўніках, а іх кампітэнтнасці, досведу. Гэта яны апелююць на тое, што ў нас дрэнна наладжана праца ў дзіцячых спартыўных школах. А гэта першасны рэзерў.І сюды павінны быць накіраваны адпаведныя фінансавыя патокі, дзяржаўная ўвага. А навошта гэта чыноўніку-прызначэнцу? Ён трапіў да кармушкі і ён выкарыстоўвае свій момант. Ён ведае, прыйдзе час і яго заменяць. Таму капыстаецца падарункам лёсу. Што яму ламаць галаву над доўгатэрміновымі праэктамі правільнага і рацыянальнага выкарыстання сродкаў. У яго жыццёвы момант. Другога можа і ня быць. Таму хоць паціху , але настойліва беларускі спорт, фізкультура плывуць па волі часу да сваёй багны. Якая пахінула яго за словамі і справамі дэмагогаў па горла. Далей скон.

## Са Святамі!




**Свабоднае інфармацыйнае выданне**
**Заснавальнік: Абласная Рада сяброў БХД Гародні.**
**Надрукавана на ксераксе с. М. Кухты**
**Наклад 299 паасобнікаў**
**Адказны за выпуск: Георг Нёман**